# Як савецкі консуль у Аргентыне ліквідаваў беларускую арганізацыю

**(Ад собскага карэспандэнта з Аргентыны)**

Другая з чаргі беларуская арганізацыя ў Аргентыне пад назвай «Бібліятэка імя Івана Луцкевіча» паўстала ў студзені 1937 году ў Буэнос Айрэс. Гэтая арганізацыя свайго часу ўзапраўды праводзіла грамадзка-нацыянальную дзейнасьць сярод беларускай эміграцыі ў Аргентыне, бо да яе належылі ведамыя беларускія патрыёты, якія палажылі падваліны пад пазьнейшую Фэдэрацыю Беларускіх Арганізацыяў у Аргентыне, якая была паўстала ў травені 1939 году.

Беларускае грамадзкае жыцьцё ішло нармальным шляхам аж да часу прыезду, перш у Уругвай, а пазьней у 1946 годзе у Аргентыну савецкага прадстаўніцтва. Пачынаючы з 1945 году ўраднікі кансуляту ў Уругваю, а пазьней у Аргентыне пачалі нахабна ў мешвацца ў грамадзкае жыцьцё беларусаў. Спачатку падаслалі сваіх агентаў, — зь іх найбольш ведамы Трафім Лашук і іншыя — якія падабралі сярод сяброў арганізацыяў бальшавіцкіх падхалімаў тыпу Карчыка ў Бэрысо й Цыбуця ў Сан Марціно, распачалі надаваць русыфікацыйна-бальшавіцкі кірунак арганізацыйнаму жыцьцю.

І так разам зь Беларускай Фэдэрацыяй, яны ўцягнулі й Бібліятэку імя Івана Луцкевіча ў Славянскі Саюз, створаны савецкімі агентамі, каб, пад прыкрыцьцём панславізму, пашыраць расейскі імпэрыялізм, бо гэтым-жа Саюзам і кіраваў былі палкоўнік белагвардзеец П. Шастакоўскій з другімі, якія стараліся выслужыць сабе «прабачэньне» ў «бацькі» Сталіна на паварот «на родину».

На трэйцім, а фактычна на дзевятым Кангрэсе Беларускіх Арганізацыяў, які адбываўся 18 й 19 верасьня 1948 году, Бібліятэка імя Івана Луцкевіча была выключаная з Фэдэрацыі, а тым самым аўтаматычна із Славянскага Саюзу, за тое, што дэлегаты Бібліятэкі супрацівіліся называць гэты Кангрэс «трэйцім», бо ўзапраўднасьці быў ён дзевятым, лічачы ад 1939 году, калі паўстала Фэдэрацыя. Ім было шкода аднэй рэзалюцыяй Кангрэсу, на якім быў прысутны й савецкі прадстаўнік Сергеев, перачыркнуць усю іхную працу й дасягненьні на працягу некалькіх папярэдніх год дзеля таго толькі, што ня былі тады «запраўднымі» савецкімі.

Невядома дакуль заехала-б савецкае ўмешваньне ў грамадзкае жыцьцё нашае эміграцы, каб ня быў разьвязаны аргентынскімі ўладамі Славянскі Саюз у травені 1949, што наступіла пасьля развалу Ўсеславянскага Кангрэсу, на які прыбылі навет дэлегаты з Масквы, у выніку выкліканай завірухі «цітаўцамі» супраць «сталінцаў» 23, 24 і 25 сакавіка 1949 году.

З разьвязаньнем Славянскага Саюзу былі таксама разьвязаныя і ўсе арганізацыі, якія да яго належалі, а таксама закрытыя ўсе газэты, выдаваныя расейскімі камуністымі. Але пад гэты дэкрэт не падпала Бібліятэка імя Івана Луцкевіча, бо яна-ж была выключана з Славянскага Саюзу шэсьць месяцаў перад гэтым за непадпарадкаваньне савецкім дырэктывам.

Бібліятэка імя Івана Луцкевіча й надалей прадаўжала сваю дзейнасьць і, хаця яна вяла прабальшавіцкую работу, але й гэта савецкаму консулю не спадабалася. Ён ня мог мецьдаверу да тых, якія ўжо раз супрацівіліся ягоным загадам. Дык пастанавіў яе зьліквідаваць. Пры праводжаньні ліквідацыі савецкі консуль спаткаўся із здаровым беларускім супрацівам, якім кіраваў Мікалай Жданеня з Бэрысо і Я. Пятрушак з Буэнос Айрэс. Яны гаварылі: «Усё разумеем, але каб савецкі консуль намагаўся разьвязаць арганізацыю й расьцягваць грамадзкае дабро, дык гэтага зусім не разумеем. Калі-б гэта рабілі аргентынскія ўлады, капіталістыя, дык было-б лягчэй на гэта глядзець».

Бачачы, што да ліквідацыі нармальным спосабам ня дойдзе, савецкія прадстаўнікі пайшлі на іншы шлях. Савецкі кансулят піша ліст у гішпанскай мове й падкладае яго сп. Мікалаю Жданеню, у якім гаворыцца, што «калі не перастанеце дзейнічаць супраць ліквідацыі Бібліятэкі, дык будзеце простым спосабам зьліквідаваныя» (!). Па атрыманьні ліста, сп. Жданеня, доўга не чакаючы, пайшоў у паліцыю й там прадставіў усю справу. У паліцыі яму заявілі, што надалей можа рабіць, што ён хоча, але на падставе гэтага ліста й замэльдаваньня мае права ўжыць у собскай абароне ўсякай зброі. Даведаўшыся пра гэта, савецкі падхалім Карчык усё данёс консулю, які выклікаў сп. Жданеню й пачаў яму гразіць усімі спосабамі, якіх ужываюць на бацькаўшчыне энкавэдзістыя. Ён заявіў, што напіша аб гэтым у Маскву. Аднак сп. Жданеня гэтага не спалохаўся й даў яму адказ такі, што консулю аж пена выступіла на губы.

Гэта ня ёсьць адзіным выпадкам, а, як нам ведама, ужо трэці падобны выпадак. Адзін быў тады, як быў памешчаны ў канцы мінулага году ў «Бацькаўшчыне» гістарычны артыкул з жыцьця беларускай эміграцыі ў Аргентыне. Тады таксама консуль заклікаў да сябе аднаго дзеяча із старой эміграцыі й пачаў рабіць яму выгавар, чаму ён падаў дадзеныя адносна ўмешваньня савецкага консуля ў грамадзкае жыцьцё эміграцыі й г. п. Ён цьвердзіў, што гэта ёсьць проціў улады Савецкага Саюзу й партыі бальшавікоў. Гэты чалавек, які ні аб чым ня ведаў, адказаў, што ёсьць людзі, якія лепш аб гэтым знаюць за яго, а пры гэтым — што кансулят ня мае ніякага права ў такі спосаб зьвяртацца да грамадзяніна, які пражывае ў вольнай краіне, і запалохваць, што ён напішу Бэрыі. Забраўся й выйшаў.

З гэтага відаць, што не памагае прапаганда, якую саветчыкі сыстэматычна праводзяць, выдаючы камуністычныя газэты ў Аргентыне ў пяці мовах, выплачваючы на кажны нумар па 2.000 пэзаў, ні грошы, якія плацяць сваім агентам і даношчыкам, — цяжка ўва ўсіх забіць нацыянальную сьведамасьць. Мы верым, што раней ці пазьней абудзіцца беларускае нацыянальнае сумленьне сярод старой беларускай эміграцыі ў Аргентыне, што эміграцыя гэтая дасьць належны адпор усім камуністычным агентам, як і афіцыяльнаму прадстаўніку бальшавіцкай турмы народаў — савецкаму консулю ў Аргентыне.

**К. Мацкевіч**

# З нашай працы у Аўстраліі

**(Ад собскага карэспандэнта з Аўстраліі)**

Гэтымі днямі надыйшоў у Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі спэцыяльны дыплём Міністэрства Іміграцыі за наш удзел у Аб'езднай Выстаўцы Рукадзельля й Мастацтва, што трывала амаль увесь мінулы год у Аўстраліі. Аб выстаўцы былі больш ці менш правільныя зацемкі ў беларускай прэсе, а так-жа прыязныя водклікі й фотоздымкі ў прэсе аўстралійскай. Гэты дыплём зьяўляецца для Аб'еднаньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі й б. Беларускага Клюбу ў Мэльбурне — арганізатараў беларускага аддзелу выстаўкі — ня толькі прызнаньнем іхных стараньняў і ўложанай у выстаўцы працы, але й заахвочаньнем да далейшых выступленьняў ува ўсіх міжнацыянальных імпрэзах Аўстраліі. Дыплём гэты зьяўляецца падзякай для ўсіх тых, хто тым ці іншым спосабам прычыніўся да гэтай справы.

Бяручы ўдзел у падобных імпрэзах мы ня толькі паказваем тую ці іншую галіну нашае культуры, але й маем нагоду шырака інфармаваць аўстралійскі народ аб нашай далёкай паняволенай Бацькаўшчыне, аб ейным народзе, што ў цяжкіх абставінах доўгалетняга паняволеньня патрапіў тварыць высока мастацкія рэчы. Такім спосабам мы спрычыняемся ня толькі да азнаямленьня чужынцаў з нашай Бацькаўшчынай, але й для здабыцьця іхнай сымпатыі, што ў будучыні, пасьля развалу Сталінскай турмы народаў, можа мець вялікае для нас значэньне.

Пры гэтай нагодзе нельга ня ўспомніць аб тых цяжкасьцях, зь якімі арганізатары беларускага аддзелу выстаўкі ўпяршыню тут спаткаліся. Былі спробы нашых «прыязных» суседзяў лічыць наш аддзел за расейскі, і толькі стойкая пазыцыя прадстаўнікоў Аб'еднаньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі й б. Беларускага Клюбу ў Мэльбурне ды прыхільнасьць іміграцыйных уладаў дазволілі назваць наш аддзел ягоным собскім беларускім іменем.

**А. Маханеўскі**

### РЭВІЗЫЯ ІМІГРАЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫКІ ЗША

Прэзыдэнт Труман паклікаў 4 верасьня спэцыяльную камісыю ў складзе 7 асоб, заданьнем якой зьяўляецца праверка дасюлешняй іміграцыйнай палітыкі ЗША. У сваім высьненьні прэзыдэнт Труман войстра скрытыкаваў амэрыканскі кангрэс за новы іміграцыйны закон Мэк Кэрана, які быў прыняты супраць вэта прэзыдэнта. Новая камісыя пад кіраўніцтвам Пэрльмана мае да 1 студзеня 1953 году прадставіць свае папраўкі да існуючага іміграцыйнага закону.

# Усім нашым прадстаўніцтвам і чытачом за акіянам

**Да гэтага часу «Бацькаўшчына» рассылалася ў заакіянскія краіны часткава звычайнай, а часткава лётніцкай поштай для тых падпішчыкаў, што мелі аплачваць апрача намінальнай вартасьці газэты, таксама і лётніцкую перасылку. Практыка, на жаль, паказала, што многія з тых, што атрымлівалі газэту лётніцкай поштай, асабліва ў ЗША, зусім не аплачвалі на адрас нашых прадстаўніцтваў лётніцкай перасылкі. «Бацькаўшчына» знаходзіцца ў цяжкім матарыяльным палажэньні й далей ня можа гэтага талераваць.**

**Таму, каб мець непасрэдны кантроль над аплатай, пачынаючы ад кастрычніка «Бацькаўшчына» будзе высылацца лётніцкай поштай не за пасярэдніцтвам нашых Прадстаўніцтваў, але непасрэдна падпішчыкам, якія згары аплацяць падпіску ўключна із вартасьцю газэты ў вышыні 30 амэрыканскіх цэнтаў (або іхную раўнавартасьць у іншай валюце) за адзін эгзэмпляр на адрас нашага Фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі. За падвойныя нумары газэты аплата вызначаецца таксама падвойная, г. зн. 60 цэнтаў за эгзэмпляр.**

**У сувязі з гэтым просім усіх нашых Прадстаўнікоў прыслаць нам найпазьней да 1 кастрычніка адрасы тых падпішчыкаў, што атрымліваюць газэту лётніцкай поштай, і тэрміны падпіскі, якія на іх рукі ўжо аплацілі гэтую падпіску, бо ў праціўным выпадку й ім будзе спыненая высылка газэты.**

**Сталыя супрацоўнікі «Бацькаўшчыны» могуць і надалей атрымліваць газэту задарма.**

**Тыя-ж падпішчыкі, што атрымліваюць газэту звычайнай поштай, будуць і надалей яе атрымліваць за пасярэдніцтвам нашых Прадстаўніцтваў, як і дагэтуль.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

### ЗАКЛІКАЕМ ІНШЫХ ЗРАБІЦЬ ТОЕ САМАЕ

**Цэнтральны Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі выпісвае для сваіх сяброў 200 найграных грамафонных плітак зь беларускімі песьнямі. Няхай на чужыне нашыя дарагія песьні весяляць сэрцы нашых суродзічаў.**

**Цэнтральны Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.**

**Ганна Паўкэр пазбаўленая апошняга становішча.** Ганна Паўкэр, яшчэ нядаўна наймагутнейшая жаншчына ў камуністычных краінах, а якая цяпер папала ў вялікую няласку, была пазбаўленая гэтымі днямі свайго апошняга становішча. Як паведаміла радыё з Букарэшту, яна цяпер «адкліканая із становішча заступніка старшыні рады міністраў».

**Новы праект у справе вымены ваеннапалонных.** Мэксык прадставіў у Задзіночаныя Нацыі новы праект вымены ваеннапалонных у Карэі, спадзяючыся, што ён паможа скрануць зь мёртвага пункту перамовы ў Панмунджон аб перамір'і. Мэксык прапануе безадкладна вымяніць тых ваеннапалонных, якія хочаць дабравольна вярнуцца ў сваю бацькаўшчыну. Усе-ж астальныя, што не жадаюць быць рэпатрыяванымі, — згодна гэтага праекту, атрымаюць права выэміграваньня ў розныя краіны ЗН.

**УВАГА! УВАГА!**

# Выйшла з друку й ужо прадаецца паэма Якуба КОЛАСА „Новая Зямля“




### ЗЬМЕНЕНА ЦАНА КНІЖКІ

У сувязі з тым, што друк і брашуроўка «Новай Зямлі» каштавалі трохі танай, чымсьці мы раней аблічалі, **канчальныя цэны за «НОВУЮ ЗЯМЛЮ» для паасобных краінаў наступныя:**

1. У ЗША — 3 даляры,
2. У Канадзе — 3 даляры,
3. У Аўстраліі — 15 шылінгаў,
4. У Аргентыне — 15 пэзо,
5. У Ангельшчыне — 10 шылінгаў,
6. У Францыі — 400 франкаў,
7. У Бэльгіі — 150 франкаў,
8. У Нямеччыне — 10 марак,
9. Для безработных беларусаў Нямеччыны — 2 маркі.
10. У іншых краінах раўнавартасьць 3 амэрыканскіх даляраў.

Перасылка аплачваецца дадаткова.

Выпісваць у Нямеччыне трэба з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны», а ўва ўсіх іншых краінах паводля наступнага адрасу:

Paul Urban, 19, Place Hoover,
Louvain, Belgique.

**Кніжка на павер ня высылаецца.**

**Беларусам з паза Нямеччыны радзім, дзеля тэхнічнага ўспраўненьня, найлепш выпісваць «НОВУЮ ЗЯМЛЮ» цераз Прадстаўніцтвы «Бацькаўшчыны» ў дадзенай краіне, перасылаючы на іх належнасьць. Прадстаўніцтвы-ж з свайго боку атрымаюць адпаведную кольkасьць эгзэмпляраў кніжкі пасьля надасланьня ўсей належнасьці на адрас нашага фінансавага прадстаўніка ў Бэльгіі.**

**«НОВАЯ ЗЯМЛЯ» — гэта адзін з найвыдатнейшых твораў беларускае літаратуры й яна павінна быць настольнай кнігай кажнага беларуса.**

Кніжка надрукаваная на добрай паперы, з прыгожай вокладкай і абыймае 249 · XVI балонаў.

# Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:**
Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover,
Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:**
**The Whiteruthenian Editorial Foundation**
**52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:**
Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn.
Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:**
Mr. B. Danilovich,
222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.A.
5. **У Канадзе:**
Mr. Joseph Cory, 270 Clinton Str.
Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:**
Asociacion Bielorusa en la Argentina
calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio
prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:**
Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street
East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:**
Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel·74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:**
Mr. Karanieuski Marian,
R. N. Z. A. F. Station
Taieri. Otago. New Zeeland.

### ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. Канада | 15 цэнтаў |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкаў |
| 5. Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкаў |

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

---

чалавеку ў бядзе, горы й іншым няшчасьці.

Накшае значаньне мае слова **прыяць** (= м. благоприятствовать, п. sprzyjać). Прыяць можна як у бядзе, так і ў шчасьці — заўсёды. Мае ўжывацца **прыяць** (бяз **с**), а ня «спрыяць».

Прыклады: **Праведныя радзіцелькі, прыяйце, хлеба — солі засылайце і нас не забывайцеся.** ЛЮБАВІЧЫ (РОМ. VIII 527). **Свой свайму балей прыяе, чымся чужому.** НСЛ.; ВАЛОЖЫНА; СЬП. **Папрыялі жнейкі, дык і дажалі,** НСЛ. **Прыяньня ані каліва ў вас няма.** НСЛ.

Ізноў накшае значаньне словаў **«зычыць, зычэньне, узычыць, зычлівы, зычлівасьць»** і **«жадаць, жаданьне, жаданы».** Можна зычыць або жадаць чалавеку ўдачы, шчасьця.

**Сенажаць, пожня, луг, лука, поплаў.**

**Сенажаць** або **санажаць,** зьм. **сенажатка, санажатка** абазначае зямлю, што пакрываецца травою, каторую з году ў год косяць на сена. **Пожня** мае тое самае значаньне, што сенажаць. Як правінцыялізм, «пожня» значыць яшчэ «поле па зжатым збожжы», іржышча. Мокрая сенажаць будзе **луг,** зьм. **лужок** і няма дзіва, бо «луг» таго самага караня, што й «лужа».

Сенажаць у форме лука (балей меней) завецца **лука.** Гэткія сенажаці нярэдка бываюць ля ракі. Сенажаць ля рэчных мэандраў завецца **залука** (п. łąka), БАРН. Прыклды: **Сенажатку сваю запрадаў.** НСЛ. 630; **Куплю табе хатку, яшчэ сенажатку.** Тм.

Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?
Пытаецца сын у маці,
Каторую браці.

(З нар. песьні).

Сюды лугі, туды лугі —
Недзе каню напіціся.
У мяне маладое роду многа,
Да к некаму прыхіліціся.

(З нар. песьні).

Прыметнік ад «сенажаць» — **сенажатны** (= м. луговой, сенокосный).

**Сенажатка** сустракаецца ў вадным смаленскім дакумэнце ўжо ў XIII в.

**Санажаць** (з аьцвярдзелым **с**) сустракаецца ў памятках ужо ў XV в., а ў цяперашняй мове народнай ужываецца між іншым у ВАЛ.; АШ. і Л.

Слова «пожня» запісана ў Дз. ля Мосара й Глыбокага, у Будзе Вял. і ў Леплю. Зь літаратуры прывядзём прыклады з ЛНЧ: **Мой парабак мо' ўжо пожню скасіў.** 17; **Дый пожанька ў мяне, ат, пуп прыкрыць камарыны, — і ўзяў-бы касу ды суседу ногі падрэжаш.** 8.

**«Лука»** (з націскам на **а**) запісана ля Сожа, Дняпра, Нёмна і ў АШ.

**Лукавіна** — излучина. НСЛ. 272. **Дарога лукавінаю йдзець.** Тм.

**«Поплаў»** значыць тое, што м. «заливной луг»; поплаў запісаны між іншага і ў IГ.

**Судзьдзё, суднік; снасьць; снадзіва, снадзь, снадзіўнік, снаднік; скрыня, струмэнт, вупраж.**

**Судзьдзё,** родны склон **судзьдзя,** прадметнік зборны (адзіночны — **судзіна**) — гэта місы, талеркі, шкланкі, сподкі, гаршкі, жбаны, вёдры, цэбры, ражкі, ночвы і да г. п. Белр. «судзьдзё» адказуе м. «посуда», п. naczynie.

**Суднік** — гэта шафа, у каторую ставяць судзьдзё (= м. буфет, п. kredens).

**Снасьць** — гэта калёсы, каламажка, драбіна, панарад, сані, плуг, барана і да г. п. Прыклад: **Хто едзе на снасьці, а хто на шчасьці.**

Шыла, малаток, абцугі, ножніцы, нож, сякера, піла і да г. п. гэта ўсё **снадзіва** (снадзіва яно — ніякага роду). Замест «снадзіва» ўжываецца яшчэ **снадзь.**

Кажны майстра або майстроўка мае сваё снадзіва або сваю снадзь. Гэткім парадкам ёсьць снадзіва сталярскае, сьлёсарскае, кравецкае, шавецкае і г. д.

Выглядае, што розьніца між снасьцяй з аднаго боку, а снадзівам або снадзьдзю, з другога, — у велічыні. Гэтак серп — снадзіва або снадзь, але машына жаць (жачка) — снасьць, цэп — снадзь або снадзіва, але малатарня — снасьць.

Вельмі часта ў снасьці ёсьць сваё снадзіва. Гэтак, плуг — снасьць, але сашнік (нарог) у плузе — снадзіва; сячкарня — снасьць, але нож у сячкарні — снадзіва; малатарня — снасьць, але цапы ў малатарні — снадзівы; калёсы — снасьць, але шворан у калёсах — снадзіва.

**Снасьць** адказуе 1. м. орудие, п. narzędzie. Земледельческие, сельскохозяйственные орудия, narzedzie rolnicze — земляробская, ралейная снасьць; 2. мертвый инвентарь, inwentarz martwy. **Снадзіва** й **снадзь** адказуе 1. м. инструмент, п. narzedzie (столярские инструменты, narzedzia stolarskie; 2. принадлежности, przybory (письменные принадлежности, przybory piśmienne).

**Снадзь** запісана ў ВЯЛ.; Н. і МН. Прыклады: **Бяз снадзі й вошы не заб'еш.** ВЯЛ.; **Кавальская снадзь.** ВЯЛ.

**Снадзіва** запісана ў БР.; ВАЛ. і СК. Прыклады: **Шавец забраў свае снадзівы й пайшоў.** СУХАВОЛЯ, СК.; **Благія снадзівы ў сасе. Тм.**

Назоў месца складу ў беларускай мове творыцца звычайна суфіксам **-нік:** суднік, качарэжнік, дрывотнік, сьметнік, каласьнік. Дык склад снадзіваў або снадзяў будзе **снадзіўнік** або **снаднік.** Як розныя ёсьць снадзівы — снадзі, таксама розныя будуць снадзіўнікі — снаднікі: сталярскі, сьлёсарскі, такарскі, малярскі снадзіўнік або снаднік. Словы азначаючыя, які снаднік («сталярскі» і пад.), будуць дадавацца толькі тады, калі бязь іх ня будзе зразумела, аб якім снадніку гутарка, а звычайна будзе казацца толькі снадзіўнік або снаднік. Вучаніцкі снадзіўнік або снаднік мае свой адумысловы назоў — **«пярэчнік»** (= м. пенал). БУДА, ВЯЛ. Вучаньнік у пярэчнік палажыць пяро, асадку, алавік, астрылца і інш.

**Скрыня.** АР.; НСЛ. 588, зьм. **скрынька,** АР., **скрыначка,** Тм. або **скрынка** й **скрынечка.** НСЛ. 588 адказуюць м. ящик і сундук. У значаньні апошняга, а такжа п. waliza, ужываецца яшчэ **кухрык** (з усходняга Палесься падае Машынскі ў сваей працы), значыцца малы **кухар** (куфар). Прыклады з НСЛ. 588: **У нашай пані поўная скрыня палатна, адзежы; Скрынька аббітая бляхаю.**

Скрынька ў якой-колечы скрыні (у шафе, кухры, кухрыку і інш.) завецца **прыскрынак.** АР., **прыскрыначак. Выймае з прыскрынку акраец хлеба.** ЛНЧ 32; **Грошы ў прыскрынку, у прыскрыначку ляжаць.** НСЛ. 510.

Прыскрынак у стале завецца **прыстолак.** АР. (= п. szuflada).

**Сутнік** — 1. кош ізь вечкам. АР.; с. Чухны, Крэўскае в. АШ.; 2. м. сундук.

**Струмэнт, мн. л. струмэнты** бываюць толькі музычныя. Дуда, іскрыпка, цымбалы, гармонік і пад. — гэта струмэнты.

**Вупраж.** Лейцы, вобраць, хамут, супонь, набедрыкі, падпінак, падсядзёлак і пад., — гэта вупраж.

(Заканчэньне будзе.)